

IDW
#24 • CVR A
EASTMAN
WALTZ
SANTOLOUCO
PATTISON
TEENAGE MUTANT NINJA
TURTLES
BY COMICS
ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ
ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ #24
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY
CITY
FALL
SANTOLOUCO
2013



УНУЧКА МАЯ.


ДЗЕД, Я... Я НЕ ВЕДАЛА, ШТО ТЫ НАЗІРАЕШ ЗА МНОЙ.
ТАЯ ТЭХНІКА... КАРЭЙСКАЯ, ЦІ НЕ ТАК? ГЕОММУ?
ТАК, ДЗЕД. ГЭТА – АДЗІН З МНОСТВА СТЫЛЯЎ, ШТО Я ВЫКАРЫСТОЎВАЮ НА ТРЭНІРОЎЦЫ.
ЗРАЗУМЕЛА.
НА СЁННЯ ТВАЯ ТРЭНІРОЎКА СКОН-ЧАНА. ПРЫЙШОЎ ЧАС ВЫКАРЫСТАЦЬ ТВАЮ КАТАНУ ДЛЯ БОЛЬШ ВАЖНЫХ СПРАЎ, ЧЫМ ТАНЦЫ.
ТЫ ГАТОВА ДА БЛІЗКАЙ СУТЫЧЦЫ З ЁШЫ І ЯГО КОДЛАЙ?
ЗРАЗУМЕЛА, ГАТОВА, МАЙСТАР ШРЭДАР.
ДАЗВОЛЬЦЕ СПЫТАЦЬ, ЧАМУ ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО МУТАНТЫ ЗНОЙДУЦЬ НАС?
CITY FALL
PART THREE



ТАК І ДУМАЛА, ШТО ЗНАЙДУ ЦЯБЕ ТУТ, КЕЙСІ.
ТЫ ЗАЎСЁДЫ ПРЫХОДЗІШ НА КАТОК, КАЛІ ЎСЁ ДРЭННА.
МАМ?
SPAK
СЫНОК, ТВОЙ «КІДОК» СТАНОВІЦЦА ЎСЁ МАЦНЕЙ.
ТЫ БЯССПРЭЧНА ПАЙШОЎ У БАЦЬКУ Ў ТЫМ, ШТО ТЫЧЫЦЦА МУСКУЛАЎ.
ЦІШЭЙ... БАЦЬКА ЦЯПЕР НЕ ТВАЯ ТУРБОТА, КЕЙСІ.
ТЫ ЗРАБІЎ УСЁ, ШТО МОГ, КАБ ДАПАМАГЧЫ ЯМУ, І Я ВЕЛЬМІ ГАНАРУСЯ ТАБОЙ. АЛЕ ЗАРАЗ ЁН САМ ПА СЯБЕ. ТЫ ЗА ЯГО БОЛЬШ НЕ АДКАЗНЫ.
І ЧАС ТАБЕ САМОМУ ЎЖО ПРАЧЫНАЦЦА, МІЛЫ.
МАМ... НАКОНТ ТАТЫ. Я... САПРАЎДЫ СПРАБАВАЎ ВЫКАНАЦЬ ТВАЮ ПРОСЬБУ, ТОЕ СВАЁ АБЯЦАННЕ. АЛЕ ЁН...
МАМ, ТЫ... ТЫ ЎЖО АНЁЛ?
...ЎЖО... ...АНЁЛ...
...АНЁЛ... ДУМАЮ, ЁН УЖО ПРЫХОДЗІЦЬ У ПРЫТОМНАСЦЬ...
ДЗ-ДЗЕ..?


О, КЕЙСІ, ДЗЯКУЙ БОГУ!
ГХАА... АДЧУВАЮ СЯБЕ КЕПСКА. ШТО... ЗДАРЫЛАСЯ?
ТЫ ЛЕДЗЬ НЕ ПАМЁР - ВОСЬ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ!
ТАК, ДЖОНС... У ІНШЫ РАЗ, КАЛІ ЗАХОЧАШ УВАГІ, ЗРАБІ НАМ ПАЛЁГКУ - НАПІШЫ ПАЭМУ, НУ ТАМ, ДОБРА?
ЯК... СМЕШНА, АНЁЛ. МАЙ НА ЎВАЗЕ, ШТО ВЫБІВАЦЬ З ЦЯБЕ ДУРНОТУ... ЗНАЧНА ЛЯГЧЭЙ, ЧЫМ ЗАЙМАЦЦА ПІСАНІНАЙ.
ОЙ, Ё! РАФ! МЫ... ФУТ ЗАСПЕЛІ НАС ЗНЯНАЦКУ І...
РАФ У НОРМЕ - ЁН СА СПЛІНТАРАМ АДПРАВІЎСЯ З НАМІ, КАЛІ МЫ ВЕЗЛІ ЦЯБЕ Ў ЛЯКАРНЮ. АЛЕ ІМ ПРЫЙШЛОСЯ ЎЙСЦІ НА ПОШУКІ ЛЕА.
ЛЕА? НАВОШТА?
ЁН ЗНІК ПАСЛЯ БОЙКІ СА ШРЭДАРАМ І КАРАЙ.
ЗНІК? ШТО ТЫ... АЙ!
КЕЙСІ, ТЫ ПЕРАЖЫЎ СКЛАДАНУЮ АПЕРАЦЫЮ - ТАБЕ ПАТРЭМНЫ СПАКОЙ.
ТАК, ЧУВАК. ТАБЕ НЯЛЁКА ДАСТАЛОСЯ. У НАС ШМАТ НАВІНАЎ, ТАК ШТО АДПАЧЫВАЙ, МЫ ЗАРАЗ УСЁ РАСКАЖАМ.
АГА... ДАМОВІЛІСЯ. АЛЕ... ЦІ МОЖНА ЦЯБЕ ПАПРАСІЦЬ...


«...ПАЧНІ З ТАГО МЕСЦА, ШТО ТАМ ЗА ХРЭНЬ З ЧАРАПАХАМІ»?
ТЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ГЭТА ТОЕ САМАЕ МЕСЦА, НЯЧЫСЦІК?
УПЭЎНЕНЫ. З ЧАГО ТЫ ВЫРАШЫЎ, ШТО Я ІЛГУ?
ДЫК ВОСЬ, Я НЕ ІЛГУ.
ДОБРА...
ЦЯПЕР НАМ ТРЭБА ВЕДАЦЬ...


...ЯК ПАТРАПІЦЬ УНУТР.
ГЭТА ЎЖО МОЙ КЛОПАТ.
ОХ, І НЕ ДАВЯРАЮ Я ГЭТАМУ БЛОХА-ГРЫЗУ.
САПРАЎДЫ... ТАКОЕ АДЧУВАННЕ, БЫЦЦАМ У ЯГО ЎЖО ЁСЦЬ АДКАЗЫ НА ЎСЕ ПЫТАННІ.
Я ЗГОДНЫ З ПАДАЗРОНАМІ, СЫНЫ. АЛЕ ВЕРУ, ШТО СТА-РЫ НЯЧЫСЦІК ВЕ-ДАЕ, ДЗЕ ЛЕАНАРДА - ГЭТАГА ДАСТАТКОВА, КАБ УПЭЎНІЦЬ МЯНЕ НАКІРОЎВАЦЦА ЗА ІМ.
ГЭЙ... А ДЗЕ МАЙКІ?


РРРРРРГГРРРХХ...
ЧУВАК, СУПАКОЙСЯ... НЯМА ПРЫЧЫНЫ ЗЛАВАЦЦА. ВАЗЬМІ БАТОНЧЫК - ТЫ АЦЭНІШ.
SNIF SNIF
СМАЧНА Ж ПАХНЕ, ТАК? НЕ БОЙСЯ - ЁН ЦЯБЕ НЕ ПАКРЫЎДЗІЦЬ.
ДОНІ СКАЗАЎ МНЕ, ШТО АД ШАКАЛАДА САБАКАМ ДРЭННА, ТАМУ ЗАХАВАЮ АДЗІН ДЛЯ ТОЙ ШАЎКІ АЛАПЕКС.
КАНЧАЙ, МАЙКІ! ЧАС ІСЦІ ЗА ЛЕА.
МНЕ ТРЭБА ІСЦІ. НЯЧЫСЦІК КАЖА, ТЫ ПАЧАКАЕШ ТУТ. ТАМУ, КАЛІ ЎСЁ СКОНЧЫЦЦА, ВЯРНУСЯ І ПРЫНЯСУ ПІЦУ, АБЯЦАЮ!
ШАКА...
...ЛАТ!
ГЭЙ, БРАТЦЫ, АКАЗАЛАСЯ, ШТО СЛЭШ НЕ ТАКІ ЎЖО І ДРЭННЫ ХЛОПЕЦ. ЁН НЕ СПРАБАВАЎ СЖЭРЦІ МЯНЕ І ЎСЁ ІНШАЕ.
ГЭЙ, ДЗЯЎЧАТЫ...
ТОЛЬКІ ЦЯБЕ, МАЙКІ... ТОЛЬКІ ЦЯБЕ.
...ДЫК МЫ ПАЧЫНАЕМ ЦІ ЯК?
ТАК, НЯЧЫСЦІК. ІДЗІ ЎПЕРАД...


«...А МЫ СЛЕДАМ».
УЗЛОМ І ПРАНІКНЕННЕ? ТЫ СУР'ЁЗНА?
О, БО НАДЗЕЙНЕЙ БЫЛО Б ПАСТУКАЦЦА, ТАК, ЧАРАПАХА?
KLICK
ТОЛЬКІ ПАСЛЯ ВАС.


ШТО ТАКОЕ? НАДАКУЧЫЛА НАС ВЕСЦІ?
ГЭЙ, ТУТ ЦЁМНА, А ВЫ ЎЗБРОЕНЫЯ ВОСТРЫМІ НАЖАМІ І ПАЛКАМІ - Я С ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ СТАНУ КІРАВАНЫМ.
ОГО... ЦЕМНА - НЕ ТОЕ СЛОВА.
МАЙКІ, ЦІШЭЙ!
ШТО ЗА..?!
SLAM
КОТ!
ЗАРАЗА! Я Ж ВЕДАЎ, ШТО ГАЛАВА ТВАЯ НАБІТА ЛАЙНОМ!
НЕ ЛАЙНОМ, А МАЗГАМІ, ЧАРАПАШОНАК. МОЖА ВЫ І БЕЗРАЗВАЖНЫЯ СМЯРОТНІКІ...
...АЛЕ ЗУБ ДАЮ, ШТО НЕ ДУРНІ.
SNP


БРУДКІ КЛУНАК БЛОХ, ДЫ Я ЗАРАЗ...
НЯХАЙ ІДЗЕ, РАФАЭЛЬ. НЯЧЫСЦІК ВЫКАНАЎ СВАЁ АБЯЦАННЕ.
ХАМАТА ЁШЫ... ЯК ПРЫЕМНА, ШТО ТЫ ЗАЙШОЎ.
ОЙ-ОЙ.
НЕ ВЕТЛІВАСЦЬ РУХАЛА ГЭТЫМ ВІЗІТАМ, АРОКУ САКІ.
ПАКАЖЫСЯ - Я ЖАДАЮ РАЗМАЎЛЯЦЬ З ТАБОЙ.
НУ КАНЕШНЕ.
KLIK
САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ НА ПАЧАТАК...
...І КАНЕЦ.


Я НІДЗЕ НЕ БАЧУ ЛЕА.
Я ГЭТАК ЖА... ТОЛЬКІ ГЭТАГА ПРЫТЫРКА, ЯГО СТРЫЖАНУЮ ПАД ЧЫГУН ДЗЕЎКУ І ТОЙ ДВАРНЯК.
ЗАХОЎВАЙЦЕ СПАКОЙ І БУДЗЬЦЕ НА ПАГАТОВЕ. Я ПАГУТАРУ З САКІ. ПАКУЛЬ НІЧТОГА НЕ РАБІЦЕ, СЫНЫ.
Я ЗРАЗУМЕЛА СКАЗАЎ, РАФАЭЛЬ?
АЛЕ Я, ЭЭЭ...ЭМ...
...ДОБРА, ЗРАЗУМЕЛА.
МЫ ПРЫЙШЛІ ЗА МАІМ СЫНАМ, САКІ... ЗА ЛЕАНАРДА. НАМ ПАВЕДАМІЛІ, ШТО ЁН У ТВАІМ ПАЛОНЕ. МЫ ПАТРАБУЕМ ЯГО НЕАДКЛАДНАГА ВЯРТАННЯ.
НЯМА ПАТРЭБЫ ПРАЛІВАЦЬ КРОЎ СЁННЯ, АЛЕ ЎЛІЧ – МЫ ЗАДЗЕЙНІЧАЕМ УСЕ НЕАБХОДНАЕ, КАБ ВЯРНУЦЬ НАШАГА БЛІЗКАГА.
А, МЕНЬШАГА Я І НЕ ЧАКАЎ, ЁШЫ, АДНАК АБАВЯЗАН ПАВЕДАМІЦЬ, ШТО КРОЎ УЖО БЫЛА ПУШЧАНА.
Я Ж СКАЗАЎ, ГЭТА НОЧ ПАЧАТКУ І КАНЦА, ЦІ НЕ ТАК?


«ПАКУЛЬ МЫ РАЗМАЎЛЯЕМ, НІНЗЯ ФУТ ЗАМАЦОЎВАЮЦЬ МОЙ УПЛЫЎ ПА ЎСЯМУ ВЯЛІКАМУ ГОРАДУ...»
«...ВЫРАЗАЮЧЫ ЎСЁ І ЎСЯ, ШТО СМЕЕ ПАЎСТАВАЦЬ НА ШЛЯХУ ДА МАЁЙ УЛАДЫ».
«МОЙ ЛЁС, ШТО Я ТАК ДОЎГА ЧАКАЎ, УЖО БЛІЗКІ...»
«...І Я РАСПЛЮШЧУ ЎСЯКАГА, ХТО НАСКОЛЬКІ ГЛУПЫ, КАБ ПЕРАШКАДЖАЦЬ МНЕ».



ШКАДА, ШТО ТЫ ПАМРЭШ НЕ ПАБАЧЫЎШЫ МОЙ КАНЧАТКОВЫ ТРЫЎМФ, ЁШЫ.
СЁННЯ Я РАЗВІТАЮСЯ З ТОЙ ПЕРАШКОДАЙ, ЯКОЙ ТЫ БЫЎ ДЛЯ МЯНЕ НАПРАЦЯГУ ДЗВУХ ІНКАРНАЦЫЙ.
ТЫ ЖОРСТКА ПАМЫЛЯЕШСЯ, КАЛІ НА СЯКУНДУ ВЫРАШЫЎ, БЫЦЦАМ У МЯНЕ ЁСЦЬ СПРАВА ДА ТВАІХ БАНДЫЦКІХ ВОЙН І НАПЫШЛІВЫХ ПАГРОЗ.
ВЯРНІ МАЙГО СЫНА, АРОКУ САКІ.
ТВАЙГО СЫНА ЎЖО НЯМА, ЁШЫ.
ГЭТА... ГЭТА НЕМАГЧЫМА.
УСЛУХАЙСЯ МЯНЕ, Д'ЯБАЛ... КАЛІ Я НЕ МАГУ ЗАБРАЦЬ СЫНА...
...ТАДЫ Я ЗАБЯРУ ТВАЮ ГАЛАВУ!
НЕ...


...Я НЕ ДАЗВОЛЮ ТАБЕ ПАРАНІЦЬ МАЙГО МАЙСТРА.



СЫН МОЙ... ТЫ ЖЫВЫ.
АЛЕ ЧАМУ ТЫ...
ГРФФ!
НЕ, ПАЦУК...
...ТЫ ПАМЫЛІЎСЯ.
SHRHIIIPP
Я НЕ ТВОЙ СЫН.



ТЫ АШАЛЕЎ!?
РАБЯТЫ, ГЭТА **ЎСЁ Ж ТАКІ** НАШ ЛЕА!
НЕ **НАШКОДЗЬ** ЯМУ, РАФ!
ЯКОГА ЛЯСУНА, ЛЕА?! ГЭТА Ж НАШ **БАЦЬКА**!
Я **ЎЖО** СКАЗАЎ, ШТО...
...ЁН МНЕ НЕ БАЦЬКА!
THWACK
ДЫ Ў ЧЫМ СПРАВА?!
МАЙКІ...
...СЦЕРАЖЫСЯ!
SWIP


ЛЕА! СУНЯМІСЯ ЎЖО!
FWAP
GRK
КХХХЕЕХ!
НЕ!
SHING
WHOMP
THUD


НУ ДОБРА, БРАТКА. КАЛІ ХОЧАШ ПА-ДРЭННАМУ...
...ТАДЫ БУДЗЕ ТАБЕ ПА-ДРЭННАМУ!
SCHINK
ШТО..?!
CHING
АХ!
CRNCH
FWUMP


ЛЕА,
ПРАШУ, НЕ...
ХОПІЦЬ!
АПУСЦІ МЕЧ, ЛЕАНАРДА. ТЫ ПАКАЗАЎ СЯБЕ ГОДНЫМ ЧУУНІНАМ.
МАЙСТАР... ЧАМУ ВЫ НЕ ДАЛІ ЛЕАНАРДА ПАКАРАЦЬ ЯГО?
ТАМУ...
«...ШТО ПАЦУК – МОЙ».
МОЖАШ АДПАЧЫЦЬ.


КЦІК
О-ОЎ.
РАБЯТЫ...
...ВАЛІМ!
КУДЫ!?!
ДА ТЫХ ЖА ДЗВЯРЭЙ, ЯК УВАХОДЗІЛІ! МЫ ІХ ЗНЯ-СЕМ... ХУТЧЭЙ!
РРАР!
НЕ!
ВОСЬ, ПРЫКРАСЦЬ, ЯНЫ ПАЎСЮЛЬ ТУТ!
ПРОСТА ЦЯПЕР НАМ БОЛЬШ КАГО ПРЫЙДЗЕЦЦА АДПЛЯСКАЦЬ ПА АЗАДКАХ!
ТАК, МУТАНТ...
...ТАК І ЗРОБІМ.


РРРААРГХ!
СЛЭШ!
ШАКА-ЛАД?!
І ЁН ТВОЙ, ГРАМІЛА! ДАМ, ЯК ТОЛЬКІ МЫ ЗНІКНЕМ АДСЮЛЬ!
У СЦЯНЕ ПРАХОД! ЗАРАЗ ЦІ ЎЖО НІКОЛІ, ХЛОПЦЫ!
БЯЖЫМ, СЛЭШ!
ГЭТА ЯШЧЭ НЕ КАНЕЦ, СМЕРДЗЮКІ!
ЛЕАНАРДА...


ВЫДАТНА, ТУТ УСЁ ЧЫСТА.
НЯЧЫСЦІК! Я З ЦЯБЕ ЗАРАЗ ЖЫЎЦОМ СКУРУ ЗНІМУ!
УОЎ! ЛЯГЧЭЙ! АДЧАГО ТЫ ТАКІ ЗЛЫ НА МЯНЕ? ТЫ Ж ДАГЭТУЛЬ ДЫХАЕШ, НЯЎЖО НЕ?
ТЫ ЗАВЁЎ НАС НА ГРОБАНУЮ БОЙНЮ!
А ПОТЫМ ВЯЦЯГНУЎ ВАС АДТУЛЬ!
Я СКАЗАЎ ФУТ, ШТО ЗМАГУ ВАС ПРЫВЕСЦІ, І ЗРАБІЎ ГЭТА. ТАК Я ПАЗБАВІЎСЯ ГАЛОЎНАГА САБАКІ З ХВАСТА КАТА. А З УЛІКАМ ТАГО, ШТО НАБЛІЖАЕЦЦА ДА ГОРАДА, ГЭТА НЕАЦЭННА. І НЕ МАЯ ВІНА, ШТО ТОЙ САБАКА НЕ ВЕДАЎ ПРА ЯШЧЭ АДЗІН ЧАРАПАШЫ КОЗЫР.
ЯК ПА МНЕ, Я РАЗЛІЧЫЎСЯ З УСІМІ. І ПРАПАНОВА ПАПОЎНІЦЬ МАЮ БАНДУ ЯШЧЭ ЗАСТАЕЦЦА АКТУАЛЬНАЙ.
ВАЗЬМІ СВАЮ ПРАПАНОВУ І ЗДУШЫСЯ ЁЮ, ГАД. МЫ НІКОЛІ Ў ТВОЙ ЦЫРК ВЫРАДКАЎ НЕ ЗАПІШАМСЯ.
І НЕ ЛІСЛІЎ САБЕ, НЯЧЫСЦІК – ГЭТА СЛЭШ ВЫРАТАВАЎ ТАМ НАШЫЯ СКУРЫ, А НЕ ТЫ.
ТРЫМАЙ, СЯБАР. ДОБРЫ ХЛОПЧЫК.
ШАКА... ЛАД!
ВЫ ПАМЫЛІЛІСЯ, КАЛІ ЗАБІРАЛІ СВАЮ ДРУГУЮ ЗЯЛЁНУЮ МАЛЕЧУ, ТАК? ЗАРАЗ АДГАДАЮ: ЁН УШОЎ І ЗНАЙШОЎ САБЕ НОВАГА ТАТУЛЮ, ТАК?
ПРАКЛЯЦЦЕ, НЯЧЫСЦІК, ДАВАЙ НЕ ЗАРАЗ, ДОБРА?
ПРОСТА...
...НЕ ЗАРАЗ.
ПРАЦЯГ БУДЗЕ!